




**№25 (118) сакавік 1999 г.**

**...Як жыць — дык жыць для Беларусі. А без яе — зусім не жыць.**

*Ларыса Геніюш*

# Заўвагі зацікаўленага

***У студзені гэтага года я адмовіўся ўдзельнічаць у працы Кангрэсу дэмакратычных сілаў і заявіў, што прызначэньне прэзідэнцкіх выбараў на 16 траўня 1999 году зьяўляецца чарговай памылкай апазыцыі.***

***Лічу, што зараз час пракаментаваць гэтыя крокі, тым больш, што кангрэс прайшоў, і першыя вынікі бачныя.***

Калі я пытаўся ў сваіх апанентаў: зь якой мэтай, памятаючы безвыніковасьць першага форуму, зьбіраецца другі кангрэс дэмакратычных сілаў, мне называлі тры прычыны.

<u>Па-першае</u>, кангрэс патрэбны, каб сумеснымі намаганьнямі знайсьці адказ на пытаньне: што рабіць?

У свой час Ленін стварыў ілюзію адказу, але пасьля гэтага Расея ўжо 80 гадоў ня можа адказаць на іншае пытаньне: хто вінаваты? А што маем мы?

Напярэдадні форуму адзін зь лідараў апазыцыі ў інтэрв'ю "Белорусской газете" ад 12.01.99г. кажа: "Мэта ёсьць. Няма шляхоў". Відавочна, гэта варта разумець так: да ўлады жадаецца, а як — ня ведаем... Калі самі арганізатары кангрэсу ня ведаюць, што рабіць — цяжка верыць, што 700-800 дэлегатаў адкажуць на гэтае пытаньне. Зьбіраць на кароткі час такую колькасьць людзей у адной зале — гэта пошукі чорнай коткі ў цёмным пакоі.

<u>Па-другое</u>, апаненты пераконвалі мяне ў тым, што трэба абраць сталы кіраўнічы ворган дэмакратычных сілаў. Так лягчэй весьці за сабою народ. Маўляў, народ любіць адзінае кіраўніцтва. Пытаюся: а хто намі будзе кіраваць? Ці ня тыя, пра каго пасьля рэферэндуму 1996 году пісала Ірына Халіп у вядомым артыкуле "Ах, какой был мужчина, настоящий полковник!" Адказу ад апанентаў не чуваць.

<u>І, нарэшце, трэцяе</u>, кажуць, трэба вызначацца адносна адзінага кандыдата ў прэзідэнты. Вярхоўны Савет 13 скліканьня прызначыў выбары на 16 траўня. А хіба ў Аляксандра Рыгоравіча ўжо зьявіўся варты супернік?

Прагледзімо рэйтынг вядомых апазыцыйных палітыкаў. Разгарнём "Навіны" ад 30 сьнежня 1998 году. Дадзеныя сацыялагічнай лабараторыі Андрэя Вардамацкага. У 8 прадстаўнікоў палітычнай эліты 0,1%, 0,6%, 1%, 1,7%, максімум 2,2%. А ў Лукашэнкі 39,5%. Можа, калі складзем усе працэнты апазыцыйных палітыкаў, то яны перавысяць узровень прэзыдэнта, ці хоць бы ўшчыльную наблізяцца да яго? Паспрабуем скласьці. Я заўсёды любіў не дзяліць і адымаць, а складаць. Агульная сума рэйтынгаў апазыцыйных палітыкаў 6,5%, а ў Лукашэнкі ўсё тыя ж 39,5%. Перавышэньне ў 6 разоў. У апанентаў ёсьць пытаньні? Мабыць, па Менску іншае становішча і да немагчымага абвостраныя грамадска-палітычныя супярэчнасьці? Ну проста рэвалюцыйная сытуацыя, як у лютым 1917г. ў Петраградзе! Учынім тое самае арыфметычнае дзеяньне па сталіцы. У апазыцыі 7,7%, у Лукашэнкі — 29,5%. Перавышае ў чатары разы.

Паведамляюць: маўляў, зьявіўся кандыдат — і Масква "за" і Захад нібы лаяльны, і нашае чынавенства аджыло. Пытаю: гэта хто, той, што дапамагаў Аляксандру Лукашэнку ў 1994г. да ўлады дарвацца? Ізноў маўчаньне.

Калі адарвацца ад тэмы і паразважаць вобразна, то можна ўявіць прыгожую жанчыну, якая ў 1994г. выскачыла замуж за таго, хто паабяцаў рай на зямлі. Мінула чатыры гады, і мужык пачаў надакучаць, бо з абяцанага нічога ня выканаў. А ля ног прыгажуні ўжо натоўп новых прэтэндэнтаў. Вось і жадаецца сказаць: дарагая жанчына, ты паглядзі на сябе. Ты ж каралева, багіня, дыямэнт неацэнны. Не разьменьвайся на драбязу. Ну, твой пляхаты можа аддаць цябе ў карыстаньне суседу. Але ж і кошт заламіў, шэльма! Пакупнікі не адважваюцца. А што як новы нарачоны кошт збавіць (зразумей ты гэтых мужыкоў) і яму хуценька адлічаць належныя трыццаць срэбранікаў, — то й бывай навекі, прыгажуня ты наша. Не, ты ўжо лепей пацярпі. Сустрэнеш яшчэ вартага абраньніка.

Кангрэс дэмакратычных сілаў ня выканаў ніводнай з заплянаваных мэтаў. Няма адказу на пытаньне: што рабіць? Ці хтось наіўна прымае дэкляратыўныя рэзалюцыі за праграму канкрэтных дзеяньняў?

Фактычнага аб'яднаньня не адбылося й не магло быць. Дужа розныя сілы сабраліся ў Менску, частка зь іх яшчэ зь недаверам паглядае на **беларускую нацыянальную ідэю**. Што б не казалі зараз арганізатары Кангрэсу, галоўную адзнаку гэтаму мерапрыемству выставілі менчукі. Яны сэрцам адчулі фармальнасьць збору. На заклік зьявіцца на мітынг і падтрымаць прынятыя рашэньні сабралася каля 3 тыс. чалавек, зь якіх 800 дэлегатаў, а астатнія склалі 0,2% ад дарослага насельніцтва Менску. Ды напярэдадні дзяржаўныя прафсаюзы разам са свабодным прафсаюзам і прафсаюзам металістаў вывелі на вуліцы ад 10 да 18 тыс. рабочых!

Ці трэба пасьля гэтага камусьці нешта даказваць?

### <u>Што сказаў Канстанцін Баравы?</u>

Авацыямі ўзнагародзілі дэлегаты Кангрэсу выступ дэпутата Дзяржаўнай Думы Расеі Канстанціна Баравога. Чым так прыйшоўся даспадобы прысутным лідар партыі эканамічнай свабоды Расеі?

Ён сказаў, што час ад размовы пераходзіць да дзеяньняў, з залаў паседжаньня выпраўляцца на барыкады. І ягоная партыя гатовая прафінансаваць стварэньне першага ў Беларусі партызанскага злучэньня.

Калі прачытаў гэтыя радкі на старонках адной з газэтаў, ня ўзьнікла ні радасьці, ні тым больш жаданьня пляскаць такім словам. Адразу паўстала пытаньне: хто зь кім будзе ваяваць? Беларусы супраць беларусаў? Такое прадстаўнік замежнай дзяржавы мог вымавіць толькі ў тым выпадку, калі ён ня лічыць, што прыехаў у незалежную краіну.

Ужо пасьля гэтага выступу ў інтэрв'ю "Белорусской газете" ад 1 лютага 1999 г. Баравы кажа: "Что датычыць падтрымкі расейскіх дэмакратаў, то, я мяркую, на яе можна разьлічваць. Таму як калі Лукашэнка й на гэты раз атрымае перамогу, то ў вас усталюецца не аўтарытарызм, а дыктатура год гэтак на 10-15. <u>Пасьля чаго да ўлады прыйдуць дэмакраты, якія цалкам зьвядуць Беларусь на Захад. А мы ў гэтым не зацікаўленыя.</u>" *(падкрэсьлена рэд.)* Яскравае выказваньне!!! Тады незразумела, хто павінен зьмяніць Лукашэнку? Ну, напрыклад, у выніку выбараў 16 траўня? Ізноў расейская крэатура?

Што да рашучага закліку спадара Баравога, дык жадаецца сказаць: шаноўны Канстанцін Натанавіч! Калі ўзьнікне неабходнасьць стварэньня партызанскага руху на Беларусі, то ён павядзе барацьбу супроць акупацыйнай арміі... (краіну можна ўявіць на свой выбар) і калі на той час у вас не зьнікне жаданьне фінансаваць нашыя партызанскія злучэньні, дык мы з удзячнасьцю прымем гэтую дапамогу. Не адмовіўся ж генерал Дудаеў ад зброі, пакінутай у Чачні былой Савецкай Арміяй.

### Пра выбары 16 траўня і тактыку дзеяньняў

Як я разумею, тактыка — гэта сукупнасьць метадаў і прыёмаў для дасягненьня стратэгічнай мэты. Можна мець рэальную й досыць прывабную мэту, але абіраць загадзя пройгрышныя тактычныя варыянты, якія будуць толькі аддаляць канчатковую перамогу.

Я не зьбіраюся зьмяшчаць на старонках газэты тое, чаго нельга выносіць на ўсеагульнае абмеркаваньне, калі ў далейшым мы жадаем дзейнічаць больш пасьпяхова. Але агульныя контуры праблемы варта абумовіць. На пачатку паставім кропкі над "і".

Ці прызнаем мы Канстытуцыю 1994 году? Безумоўна! Рада "Выбар" і аўтар гэтых радкоў не давалі падстаў для сумненьняў. Мы заўсёды дзейнічалі пасьлядоўна, і на нашыя плечы ляглі рэпрэсіі ўлады.

Ці легітымны Вярхоўны Савет 13 скліканьня? Так!

Ён павінен быў абвясьціць беларускаму народу, што Аляксандр Лукашэнка абраны прэзыдэнтам на пяць год і ягоны тэрмін завяршаецца 20 ліпеня 1999 году? Без усялякіх сумненьняў!

А вось далей мы рашуча разыходзімся з ініцыятарамі выбараў 16 траўня.

Прыводжу наступны прыклад. На рынгу сустракаюцца баксёры. Адзін, у чырвона-зялёнай форме, фізычна мацнейшы. Слабое мейсца — ня хопіць вытрымкі дзеля доўгага супрацьстаяньня. Скажам так, час працуе супраць яго. Лагічна будзе меркаваць, што ён захоча вырашыць зыход паядынку адным ударам у першым жа раўндзе.

Другі, у бел-чырвона-белым, слабейшы, але больш цягавіты. Тут ужо час працуе на яго. Рынуцца ў атаку адразу — азначае нарвацца на моцны ўдар і апынуцца ў накдауне. Таму разумней выкарыстоўваць свой моцны бок. Добра абараняцца й "пратанцаваць" усе 15 раўндаў, наносячы кароткія кропкавыя ўдары. Паспрабаваць выйграць у суперніка па ачках. Гэта й будзе, на мой погляд, тактычна граматнае рашэньне.

Зараз паглядзім, што мы маем у рэальнасьці. Аляксандр Лукашэнка, пайшоўшы на лістападаўскі рэферэндум 1996 году, фактычна выйшаў за рамкі прававога поля. Ягоная канстытуцыя нелегітымная, так званая палата прадстаўнікоў не прызнаная, сусьветная грамадзкая думка на баку апазыцыі. І толькі сам прэзыдэнт застаецца легітымнай фігурай. Пакуль, да 20 ліпеня 1999 году.

У сувязі з гэтым перад апазыцыяй паўстае галоўная тактычная задача: не дапамагаць прэзыдэнту ўвайсьці ў прававое поле, і нават не правакаваць яго на такі крок.

Парадокс у тым, што пасьля 20 ліпеня любы прэзыдэнт (ня толькі Лукашэнка) зможа зрабіцца легітымнай фігурай, калі выбары абвесьціць Вярхоўны Савет 13 скліканьня. І такая мажлівасьць захаваецца ўшчыльную аж да сканчэньня паўнамоцтваў Вярхоўнага Савету. Пасьля гэтага тэрміну ў Лукашэнкі не застанецца шанцаў зрабіцца легітымнай фігурай.

Па Канстытуцыі 1996 году (арт.81) выбары прэзыдэнта прызначаюцца палатай прадстаўнікоў. Але гэты ворган сам па сабе нелегітымны. Мы яшчэ не зусім усьвядомілі, у якую пастку знарок ці незнарок загналі Лукашэнку тыя, хто распрацаваў ягоную Канстытуцыю. Таму Вярхоўны Савет не павінен кідаць яму выратавальнае кола. Чаму? Таму, што трэба пакінуць шанец маладым. Калі ўсё ж такі адбудзецца здача краіны, то ў Лукашэнкі ня будзе легітымнага воргана (а пасьля 20 ліпеня й ягоная легітымнасьць выпарыцца), каб гэтую ганьбу заканадаўча замацаваць, а гэта азначае, што супраціў рэжыму ў будучым зможа разьлічваць на безумоўную падтрымку сусьветнай супольнасьці. Тут, у адрозьненне ад Чачні, не давядзецца даводзіць агульнавядомы факт, што Беларусь — не частка Расеі. Краіна мела незалежнасьць, стаяла ля вытокаў

***Працяг на стар.2***

# УЛАДЗІМІР ПЛЕШЧАНКА: сёмы месяц за кратамі

***Больш за паўгода знаходзіцца ў СІЗА-2 па справе дэмантажу бюсту расейскага палкаводца Аляксандра Суворава.***

***На працягу ўсяго тэрміну сьледзтву не ўдалося адшукаць бясспрэчных доказаў віны Уладзіміра, таму справу ніяк не могуць разгледзець у судовым паседжаньні.***



***У папярэднім нумары мы друкавалі сьпіс тых, хто ўзяў на сябе адказнасьць за стан здароўя нашага сябра. Сёньня можна дадаць яшчэ некалькі прозьвішчаў: начальнік Кастрычніцкага РАУС палкоўнік Кляцко, які ў інтэрв'ю мясцовай газэце паведаміў недакладную інфармацыю, нібыта Плешчанка выпушчаны на волю пад падпіску аб нявыезьдзе; пракурор Кастрычніцкага раёна Гаціла, які працягнуў тэрмін сьледзтва да трох месяцаў; судзьдзя таго ж раёна Зоя Гелімбатоўская, што вярнула справу на дасьледаваньне, але пакінула арыштаванага пад вартай.***

*Рэдакцыя.*

## *Зварот да габрэйскіх арганізацыяў Злучаных Штатаў Амэрыкі, Францыі і Каралеўства Велікабрытаніі*

Я, Хамайда Барыс, габрэй па крыві, нашчадак старажытнага габрэйскага роду, нарадзіўся ў беларускім горадзе Вітабску ад шлюбу латышскага габрэя і беларускай габрэйкі, зьвяртаюся да Вас па дапамогу. Сутнасьць просьбы наступная:

Напрыканцы жніўня 1998 году на адной з цэнтральных вуліцаў Вітабску зьнік бюст расейскага генералісімуса Аляксандра Суворава, зроблены зь гіпсу й мармуровай крошкі.

Калі для расейцаў Сувораў зьяўляецца героем, то для грамадзянаў Беларусі — гэта кат, які патапіў у крыві паўстаньне за незалежнасьць пад кіраўніцтвам Тадэвуша Касьцюшкі ў 1794 годзе, што мела трагічныя наступствы для беларускай дзяржаўнасьці. Таму ўшанаваньне памяці такіх дзеячоў на Беларусі зьяўляецца абразай нацыянальных пачуцьцяў кожнага беларуса.

Напачатку верасьня па падазрэньні ва ўдзеле ў дэмантажы бюсту быў затрыманы старшыня Вітабскай Рады "Выбар" БНФ "Адраджэньне" Уладзімір Плешчанка. З таго часу ён ужо 5 месяцаў знаходзіцца за кратамі.

Калі б у сьледзтва былі важкія доказы ўдзелу Плешчанкі ў акцыі, то ня склала б асаблівай цяжкасьці скончыць справу за два месяцы й накіраваць яе ў суд, як прадугледжвае заканадаўства. Але 2 лістапада пракурор Кастрычніцкага раёну г.Вітабску працягнуў тэрмін яшчэ на месяц.

7 сьнежня справа была накіраваная ў суд для разгляду, а 16 сьнежня па вызначэньні судзьдзі вернутая ў Кастрычніцкі РАУС на дасьледаваньне. Пры гэтым падазраваемага пакінулі пад вартай. Зразумелай робіцца мэта ўладаў — павольна забіваць у турме патрыёта толькі за тое, што ён любіць сваю Радзіму.

Усё гэта набывае злавесны сэнс, калі ўлічыць, што спадар Плешчанка ў 1992 годзе перанёс інфаркт і хварэе на стэнакардыю. Ня трэба быць сьпецыялістам у галіне кардыялогіі, каб зразумець, што можа адбыцца зь 50-гадовым чалавекам, які перанёс такую хваробу, за кратамі. А ўмовы ўтрыманьня ў сьледчых ізалятарах Беларусі сусьветным праваахоўчым арганізацыям даўно вядомыя.

**<u>Дарагія супляменьнікі!</u>**

56 год таму падчас зьнішчэньня фашыстоўскімі катамі габрэйскага гета ў мястэчку Калышкі Лёзьненскага раёна Вітабскай вобласьці беларус ўратаваў маю маці і бабулю ад немінучай сьмерці.

У той веснавы дзень 1942 года карнікі пачалі зганяць у агульную калёну ўсіх габрэяў у мястэчку. Калі чарга дайшла да маёй маці й бабулі, мясцовы жыхар — беларус Кароткін Аляксандр Васільевіч, які ўсё бачыў, пачаў тлумачыць забойцам, што мае родныя — не габрэі, а эвакуіраваныя рускія людзі. Мае маці й бабуля зьнешне былі непадобныя да габрэяў, і яму паверылі. Напачатку адпусьцілі маці, а потым і бабулю. Ня трэба казаць, чым рызыкаваў гэты чалавек.

Праз пэўны час калёну амаль з паўтысячы чалавек пагналі ў бок вёскі Адаменкі, і там усіх пастралялі.

У той жудасны дзень Беларус і сам Госпад Бог падаравалі жыцьцё маёй маці й бабулі, што ў сваю чаргу дало мажлівасьць зьявіцца на сьвет і мне.

У нашай сям'і ніколі не забываліся на гэтыя падзеі. Дух падзякі беларусам і ўсяму беларускаму выхавалі ўва мне бацькі.

Сёньня дапамога патрэбная беларусу, як была патрэбная ў свой час дапамога маім родным.

Я прашу Вас — дапамажыце ўратаваць жыцьцё майго беларускага сябра Уладзіміра Плешчанкі.

***18 студзеня 1999г.***

***З павагай***

***галоўны рэдактар Вітабскай газэты "Выбар" Барыс Хамайда.***

# Заўвагі зацікаўленага

*Працяг. Пачатак на стар.1*

стварэньня ААН і зьяўлялася яе паўнавартасным удзельнікам, прызнавалася ўсімі суб'ектамі міжнароднага права.

Адзін з важных атрыбутаў тактыкі — элемент нечаканасьці. Калі супернік не чакае альбо памылкова прагназуе рэакцыю другога боку, раптоўны ход можа прывесьці яго ў стан шоку. Зьвернемся да гістарычнага факту.

8 верасьня 1514 году пад Воршай сабралася 80-тысячнае маскоўскае войска. Супрацьстаяла агрэсару 30-тысячнае войска Вялікага княства Літоўскага на чале зь гетманам Канстанцінам Астрожскім. Пераломy ў бітве Астрожскі дамогся дзякуючы нечаканаму ходу. Конніца Княства раптоўна спыніла сваю контратаку, а потым па загадзе гетмана пачала адступленьне. Вораг кінуўся наўздагон. Нечакана ўся армада маскоўскіх коньнікаў апынулася перад артылерыяй і пяхотай, што, прыхаваўшыся на ўскрайку лесу, чакалі захопнікаў...

Зараз вернемся на грэшную зямлю. Ці быў элемент нечаканасьці ў дзеяньнях Вярхоўнага Савету? Лічу, што не. Пра выбары даўно казалі і шмат пісалі. Перабіралі розныя варыянты. Значыцца, улада даўно магла падрыхтавацца да такога сцэнарыю. Пытаньне было адно: наважацца абвясьціць выбары ці не? Наважыліся. Але й на гэты выпадак рэжым прадугледзеў нейкія меры. І наўрад ці апазыцыі пакінулі хоць адзін шанец на перамогу. Сьцьвярджаць, што палітычнай ініцыятывай завалодала апазыцыя, па меншай меры, несур'ёзна. У атачэньне прэзыдэнта ўваходзяць кадравыя разьведчыкі й контрразьведчыкі. Да іх можна ставіцца па-рознаму, але, бясспрэчна, яны зьяўляюцца прафесіяналамі. За рэдкім выключэньнем, у "спецслужбах" дурняў не трымаюць. А лідары апазыцыі — аматары, дылетанты ў палітыцы. Вось адно з пацьверджаньняў такой высновы.

Сьпікер Вярхоўнага Савету, спасылаючыся на станоўчы прыклад Назарбаева, прапанаваў Лукашэнку прыняць удзел у выбарах 16 траўня. Фактычна, узяўся сячы сук, на якім сядзіць.

Пры ўсім падабенстве палітычнай сытуацыі ў Казахстане й Беларусі паміж прэзыдэнтамі Назарбаевым і Лукашэнкам, як кажуць у Адэсе, дзьве вялікія розьніцы. Вось некаторыя відавочныя адрозьненьні.

Назарбаеў па нацыянальнасьці й духу казах. Лукашэнка — не беларус. Адзін шануе казахскую мову, размаўляе на ёй, а другі выкарыстоўвае беларускую толькі каб абразіць сваіх палітычных апанентаў.

Нарсултан Абішавіч зьяўляецца гарантам незалежнасьці Казахстану, і мясцовая апазыцыя няшмат страціць, калі прыйдзе да ўлады й праз 7 гадоў. Для Аляксандра Рыгоравіча, па яго словах, Беларусь — пройдзены этап. Наперадзе завоблачныя вышыні. Сёньняшняя палітычная апазыцыя можа ў любы момант страціць краіну й будучыню.

І той, хто робіць такую непрадуманую прапанову, забівае гол ва ўласныя вароты. Футбаліст Лукашэнка так не сыграў бы.

Паспрабуем разгледзець некаторыя аргумэнты прыхільнікаў выбараў прэзыдэнта. Вялікай папулярнасьцю карыстаецца тэзіс, нібыта Лукашэнка баіцца выбараў. Думаю, Лукашэнка выбараў не баіцца. Нават пры сучаснай эканамічнай сітуацыі ў краіне.Хто не разумее гэтага, таму няма чаго рабіць у палітыцы.

Пра тое, што ў Лукашэнкі няма супернікаў (сярод вядомых палітыкаў), здольных выйграць у яго выбары, было вядома раней. А тое, што ў арганізатараў выбараў не стае сілаў на іх правядзеньне, стала бачна зараз. Людзей можна зразумець. Яны не жадаюць траціць (у лепшым выпадку) працу. У іх сем'і, дзеці, гадамі нажытая маёмасьць. Што цалкам натуральна, адсутнічаюць дастатковыя грашовыя сродкі для такіх маштабных выбараў. Гэта як жартоўны тост з сур'ёзным падтэкстам: "Вып'ем за посьпех нашае безнадзейнай справы!" Які крэдытор возьмецца закопваць грошы ў зямлю? Хіба што расейскія сьпецслужбы. І то не з мэтай усталяваньня ў нас дэмакратыі, а каб канчаткова пахаваць апазыцыю пад руінамі пабудаванай ёю выбарчай піраміды. У прэсе мільганула паведамленьне пра адкрыцьцё ў адным маскоўскім банку рахунку для правядзеньня прэзыдэнцкай выбарчай кампаніі на Беларусі. З чаго б гэта?

Даводзілася чуць і такое меркаваньне: урад Прымакова жадае неяк паднавіць фасад беларускай улады, зрабіць яго больш прывабным. Пакуль ня бачна прыкметаў такога жаданьня. У Крамлі заўжды сядзелі прагматыкі. Для іх стратэгічныя інтарэсы куды як важней за тое, як абыходзіцца Аляксандр Рыгоравіч з заходнімі амбасадамі. У Амэрыцы аднойчы прагучала фраза ў адносінах да панамскага дыктатара генерала Нар'егі: "Ён сукін сын, але ж гэта наш сукін сын".

Нават калі ўявіць, што ў Крамлі ўзьнікла такое жаданьне, то навошта траціць уласныя грошы? Для мяне Лукашэнка ніколі ня быў незалежнай палітычнай фігурай. Ён часта ехаў у Маскву са сваёй думкай, а вяртаўся з думкай Барыса Мікалаевіча. Каб пагадзіцца са мной, дастаткова прааналізаваць кадравую палітыку прэзыдэнта ў сілавых структурах. Таму пры жаданьні "архітэктарам палітычнай перабудовы" дастаткова правесьці аперацыю пад кодам "Форос-2". Аляксандр Рыгоравіч жывы чалавек, і можа раптоўна захварэць, а па ягонай Канстытуцыі да новых выбараў ціхенька ўзяўся б выконваць прэзыдэнцкія абавязкі прэм'ер. І калі ўсё ж уявіць, што ад усходняга суседа зыходзіць настойлівая парада правесьці выбары ў перыяд, калі Лукашэнка мае рэальную ўладу й сілу (а там ня могуць ня ведаць гэтага), то зноў жа дзеля таго, каб канчаткова дыскрэдытаваць паняцьце дэмакратыі й самую ідэю выбараў.

Існуе думка, што прызначэньне прэзыдэнцкіх выбараў мае на мэце перахоп палітычнай ініцыятывы і перавод палітычнай сітуацыі з рэчышча "йснавалага юрыдычнага двоеўладзьдзя да двоеўладзьдзя фактычнага", як выказаўся на паседжаньні Вярхоўнага Савету адзін з маладых ды раньніх палітыкаў.

Што вы, шаноўны! Вы хоць уяўляеце, што такое двоеўладзьдзе? Клясычнае двоеўладзьдзе было ў Петраградзе 1917 году. З аднаго боку Часовы Урад, з другога — Саветы. І гэта ўдала скарыстаў бальшавік Ленін. Фактычнае двоеўладзьдзе склалася напрыканцы 80-х год у Польшчы, калі "Салідарнасьць" прымусіла сесьці за круглы стол ваенны рэжым Ярузэльскага. На Беларусі, на жаль, не тая сітуацыя. Вярхоўны Савет 13 скліканьня не карыстаецца аўтарытэтам у насельніцтва. Нешта ня бачна было ў лістападзе 1996 году на вуліцах Менску шматтысячных маніфестацыяў з лёзунгамі "Рукі прэч ад Вярхоўнага Савету!"

Аўтар гэтых радкоў мяркуе, што нельга з дапамогай дэмакратычных выбараў пазбавіцца ад дыктатарскіх і аўтарытарных рэжымаў. Дзеля пачатку, як мінімум, варта ўзяць пад руку дыктатара й вывесьці яго з прэзыдэнцкага палаца, а ўжо потым вырашаць, як праводзіць галасаваньне. Пра гэта сьведчыць палітычны вопыт краінаў Усходняй Еўропы.Таму, на мой погляд, 16 траўня можа вырашыцца толькі пытаньне, хто, дзе і колькі будзе сядзець.

Мяне ня дужа непакоіць лёс ініцыятараў выбараў. Здаецца, жывыя яны будуць. Больш непакоіць душэўны стан дзесяткаў тысячаў нашых прыхільнікаў, якія паверылі ў тое, што ў выніку звычайнага апусканьня бюлетэня яны змогуць назаўжды разьвітацца з Аляксандрам Рыгоравічам Лукашэнкам. Баюся, што пасьля 16 траўня на многіх сьвядомых беларусаў можа абрынуцца яшчэ большая апатыя і страта надзеі на зьмены. Тым больш, калі ня збудуцца прагнозы некаторых аналітыкаў, што пасьля 20 ліпеня 1999 году хваля пратэсту выліецца на вуліцы гарадоў. Для такіх прагнозаў не хапае дзьвюх складаемых: яшчэ ня вылучыўся беларускі Майсей і ня згуртаваўся сьвядомы мільён. Мы яшчэ не чачэнцы і не касавары.

Мяркую, апазыцыі варта было вызначыць праблему і не ўвязвацца ў пройгрышныя ар'егардныя баі, калі дарагая краіна. 16 траўня ставіць на карту найбольшую каштоўнасьць нацыі — дзяржаўны суверэнітэт.

Гэтым я кіраваўся, калі ў студзені ў гутарцы з карэспандэнтам БелаПАН казаў, што сёньня любая маштабная акцыя, якая не прывядзе нас да рашаючай перамогі, можа азначаць канчатковую паразу.

Наколькі рэальны мой прагноз? Пажывём — пабачым. Дужа жадаў бы памыліцца. Мяне не цікавіць палітычная будучыня лідараў апазыцыі. Да іх лёсу вернемся ніжэй. Проста маю вялікае жаданьне захаваць нізавыя структуры апазыцыі, сотні шэраговых актывістаў, да якіх адношу й сябе. Яны ой як спатрэбяцца ў далейшай барацьбе.

* * * * *

На працягу апошніх год апазыцыя трывала адну паразу за другой — ніводнай перамогі. Чаму? На мой погляд, існуюць тры галоўныя прычыны.

Па-першае, Госпад Бог, на маю думку, абдзяліў кіраўнікоў апазыцыі талентам і інтуіцыяй.

Дазволю сабе спасылку на Зянона Пазьняка.У шостым правіле "Зацемак па практычнай паліталёгіі" ён піша: "Палітыка — гэта час. (Бывае, нават момант). Для датрыманьня гэтага правіла, на жаль, патрэбныя яшчэ талент і інтуіцыя. Ніякія вучоныя рэгаліі, адукацыя, розум, аўтарытэт (выдатнае навучаньне ў школе і г.д.) тут не дапамогуць, калі працягнеш (страціш) час, ня выкарыстаеш яго ў сваім моманце і "цягнік паедзе".

Некаторыя з кіраўнікоў апазыцыі ніяк не ўцямяць, што ў лістападзе 1996 г. іх "цягнік паехаў". Якраз тады, калі клюнулі на прапановы расейскіх "миротворцев", а затым пайшлі на юдаў фуршэт запіваць гарэлкай "победу" "здравого смысла".

Памятаеце вядомыя словы, што такую апазыцыю трэба гадаваць, на руках насіць! Кожны павінен займацца сваёй справай. Доктар тэхнічных навук — парашковай мэталургіяй. Там дастаткова "белых плямаў", ёсьць шанец вызначыцца. Вядомы банкір зрабіў бы шмат карыснага, калі б свой багаты вопыт і веды перадаваў маладым. І мы хутчэй зрушыліся б ад рынкавага сацыялізму да рынкавай эканомікі. У галіне ядзернай фізыкі ўвогуле прасторы неабсяжныя. Прафэсар, што зрабіў у ёй навуковае імя, нягледзячы на свой паважаны ўзрост, мог бы засяродзіць увагу на адным зь перспектыўных накірункаў, які яшчэ чакае свайго нобелеўскага лаўрэата. А плесьці палітычныя карункі павінны здатныя на тое.

Па-другое, гэтая апазыцыя ніколі не рабіла стаўку на ўласны народ. Адны пераконвалі: Масква нам дапаможа, другія — Захад. Зыходзячы зь дзьвюх гэтых канцэпцыяў плянаваліся й дзеяньні.

Канешне, марыць, як за нас усё зробяць расейскія дэмакраты кшталту Канстанціна Баравога ці краіны Эўрасаюзу нашмат лягчэй, чым займацца штодзённай чарнавой працай — гуртаваць сьвядомую беларускую меншасьць. Тут патрэбныя **воля, цярпеньне і вера**. І не адзін біблейскі Майсей мог так трываць і верыць. Польскаму Майсею Леху Валенсу спатрэбілася 20 гадоў, каб прывесьці палякаў да перамогі. Чэху Вацлаву Гавэлу й таго больш. Я ўжо маўчу, колькі спатрэбілася Паўднёваафрыканскаму Майсею Нэльсану Мандэле, каб зьнішчыць апартэід. Ён толькі ў турме адседзеў 27 гадоў.

Лёгкіх шляхоў не бывае. Варта ўразумець раз і назаўсёды: за свабоду даводзіцца плаціць. Пытаньне адно: які будзе кошт? Вось на яго й можа паўплываць граматная тактыка.

Нарэшце, па-трэцяе.

Гэта ненармальна, калі ў кіраўніцтве апазыцыі знаходзяцца людзі, якія дапамагалі Лукашэнку прыйсьці да ўлады.

Гэта ненармальна, калі ў лідарах апазыцыі ходзяць людзі, якія зусім не зразумелі маскоўскай палітыкі ў лістападзе 1996 года.

І апошняе: гэта ненармальна, калі воляю лёсу ў апазыцыі апынуўся намэнклатурны Вярхоўны Савет, які зацьвердзіў вынікі ганебнага для нацыі рэферэндуму 1995 года аб беларускай мове й скасаваньні гістарычнай сымболікі.

Пакуль захаваецца такое становішча, народ на вуліцы ня пойдзе.

Зараз усё вастрэй паўстае пытаньне не што рабіць, а з чаго пачаць? І тут я згодны з вядомым журналістам Аляксандрам Старыкевічам, што "...без карэнных зьменаў у апазыцыі не абыйсьціся." І чым раней гэта адбудзецца, тым лепш.

*15 лютага 1999г.*

*Барыс Хамайда*

**P.S.** Сваімі развагамі я нікога не жадаў пакрыўдзіць. Проста надакучыла назіраць за безвыніковымі эксьперыментамі кіроўцаў апазыцыі. Бачыць, як дарослыя дзядзькі спрабуюць хадзіць назад. Гэта неэфектыўна, нязручна й складана.

Разьмяняўшы шосты дзесятак, я спадзяюся хоць пабачыць Вольную Беларусь. І лічу, што гэта магчыма. А там і паміраць можна.

# Прэзыдэнт: ці патрэбны ён Беларусі?

Пытаньне, вынесенае ў загаловак, зьяўляецца выключным па значнасьці дзеля лёсу нашае дзяржавы. Пры тым большасьць сёньняшніх палітычных дзеячоў апазыцыі й урадавых колаў мае вельмі нявызначанае й непрафэсыйнае ўяўленьне пра ягонае мейсца ў нашым грамадзтве.

Канешне, у дадзеным выпадку размова ня йдзе пра спадара Лукашэнку, якога прэзыдэнтам можна назваць хіба ўмоўна. І патрапіў ён туды дзякуючы памылковаму рашэньню выбаршчыкаў у 1994 годзе. Пытаньне датычыць не канкрэтнай асобы, а постаці Прэзыдэнта ў структуры нашае дзяржавы й грамадзтва ўвогуле.

Прайграўшы прэзыдэнцкія выбары, нашыя палітыкі напалохаліся іх вынікаў і першых крокаў новага абраньніка нагэтулькі, што пасьпяшаліся заявіць пра непатрэбнасьць, нехарактэрнасьць прэзыдэнцкай формы кіраваньня на Беларусі. Паступова некаторыя зь іх ачомаліся і, зірнуўшы цьвяроза на мінулыя падзеі, пачалі разумець, што не прэзыдэнцкая, а якраз парламенцкая форма кіраваньня (Вярхоўны Савет 12-га скліканьня) нарадзіла новага вылучэнца. Дадам ад сябе, што й тамтэйшая дэмакратычная апазыцыя адыграла ў гэтым не апошнюю ролю.

Ужо прагучалі заклікі да падрыхтоўкі новых прэзыдэнцкіх выбараў, асобныя партыі пачалі вылучаць усеагульнага лідара беларускага народу. Другія, наадварот, занялі глухую абарону: прэзыдэнт, маўляў, Беларусі не патрэбен — толькі парламенцкая рэспубліка.

Скажу адразу, развагі тых і іншых прынцыпова ня маюць рацыі і, што дзіўна, кожная ўяўляе сьмяротную небясьпеку для нашае дзяржавы.

Давайце абмяркуем гэтыя пазыцыі.

Першыя, якія прыйшлі ў апазыцыю пераважна пасьля разгрому Вярхоўнага Савету (1996 г.), несумненна, валодаюць вопытам кіраўніцтва, як асобнымі галінамі, так і краінай у цэлым. Толькі вось вопыт гэты адмоўны й зьвязаны пераважна не са стварэньнем, а з развалам.

За невялікім выключэньнем яны прыйшлі з партнамэнклятуры й дзесь у скрынях захоўваюць яшчэ, верагодна, чырвоныя кніжкі. А раптам вернецца кауністычны лад?

Менавіта яны давялі да ўлады Ал.Лукашэнку, здалі Вярхоўны Савет, а калі саміх іх разагналі за непатрэбнасьцю, перайшлі ў апазыцыю з намерам замяніць прэзыдэнта, паставіўшы на ягонае мейсца кагосьці са сваіх.

Цяжка сказаць, што больш рухае імі — заціснутае самалюбства ці нерэалізаваныя амбіцыі, — думаецца, тое й другое. Жадаецца пабыць першай асобай у дзяржаве, ой як жадаецца!

Шмат хто ведае, як выпадкова й лёгка стаўся ёю С.Шушкевіч, а нечаканы ўзьлёт Лукашэнкі пераканаў у тым, што дзеля гэтага на Беларусі зусім неабавязкова валодаць нейкімі асаблівымі якасьцямі. Як жа тут не распаліцца прагаю!

Газэты ўжо абмалявалі якасьці, неабходныя будучаму прэзыдэнту. І адукаваны, і разумны, і мову павінен ведаць, а, галоўнае, толькі выхадзец з дзяржнамэнклатуры, як пісаў адзін публіцыст.

Ім і не даходзіць, што, чым больш такіх знаходзіцца ва ўладзе, тым болей яны дыскрэдытуюць самую ўладу.Народ паступова расчароўваецца ў здатнасьцях уласнай інтэлігенцыі, і, урэшце, зробіць стаўку на палітыкаў сумежнай дзяржавы, зьліквідаваўшы суверэнітэт.

Другія ж, а да іх ліку адносяцца пераважна прыхільнікі БНФ і яго лідары, перакананыя, што толькі парламенцкая рэспубліка ўратуе нас і дазволіць пабудаваць дэмакратычную Беларусь. Як бы й забыліся зусім, што нашу апошнюю дзяржаву — Рэч Паспалітую — суседзі зьліквідавалі таму, што выбілася з агульнага шэрагу, разьвёўшы мястэчковую дэмакратыю, калі кожны крыху ўплывовы шляхціц мог скасаваць рашэньне сойму краіны, а манархператварыўся на выбарную цацку ў руках магнатаў.

Няўжо мы такія наіўныя, што ўявім, нібыта абраны нашым насельніцтвам Вярхоўны . Савет створыць паўнавартаснае заканадаўства? А ці не ўяўляецца наступнае: патрэбны Закон, а мінае месяц, два, пяць, восем, а яго так і няма, Вярхоўны Савет ня можа дасягнуць гэтага, як яго... кансэнсусу. Што, у дзейнасьці зьезду дэпутатаў і Вярхоўнага савету СССР, Вярхоўных Саветаў Рэспублікі Беларусь 12 й 13 скліканьняў мала было прыкладаў?

У такім выпадку ці калапс эканомікі й развал краіны, альбо выканаўчай уладзе дзеля выратаваньня сытуацыі давядзецца ўзяць на сябе частку заканадаўчай функцыі, а гэта, ды яшчэ пры самастойным прэм'ер-міністры, і зьяўляецца шляхам да дыктатуры. Дарэчы, ліквідацыя Вярхоўнага Савету ў лістападзе 1996 году ў пэўнай ступені й адбылася ў выніку падобнай сытуацыі, калі дэпутуты не змаглі скарыстацца са сваіх канстытуцыйных паўнамоцтваў.

У выпадку імпатэнтнасьці парламенту, а ў нас гэта зьяўляецца непазьбежным, у дзяржавы застаецца два шляхі: зьнікненьне з палітычнай карты сьвету са стратай суверэнітэту альбо спаўзаньне да дыктатуры. Другое мы ўжо паспрабавалі. Няўжо хтось хоча паспрабаваць першае?

Часам даводзіцца пачуць пра неабходнасьць савета дырэктароў — гэткай, разумееце, беларускай дырэкторыі — ці пра трох консулаў. У гісторыі былі адпаведныя прыклады й чамусь найчасьцей яны даходзілі да 18 брумера. Такая чалавечая сутнасьць: нехта заўсёды спрабуе падмяць іншых пад сябе. Ці ня лепей не вынаходзіць ровар, а выкарыстаць вопыт разьвітых эўрапэйскіх краінаў.

Большасьць краін, што значна пераўзыходзяць нас па эканамічным разьвіцьці, маюць свайго прэзыдэнта ці нават манарха. Зь 10 мільёнаў грамадзянаў знайсьці аднаго разумнага прасьцей, чым 300.

Роля прэзыдэнта зусім ня ў тым, каб вярстаць бюджэт, запускаць заводы ці кіраваць банкамі й калгасамі. Асоба Прэзыдэнта — гэта найперш сымбаль краіны, які яднае грамадзкасьць і пераадольвае супярэчнасьці. Гэта аўтарытэт, які прадстаўляе краіну ў сьвеце, сымбалізуе шчырасьць і стабільнасьць, выклікае давер і гэтым прыцягвае ў яе інвестыцыі. Прашу прабачэньня за высокія словы, але народ, які жадае жыць годна й суверэнна, павінен шукаць і знайсьці такога лідара.

Кажуць, у нас такіх няма. А шукаць спрабавалі? І чаму толькі сярод кар'ерыстаў і партапаратчыкаў? Якраз там яго няма. Лідар новай фармацыі, здатны пераконваць, а не ціснуць сілай, вырасьце толькі ў масах.

Некаторыя прапануюць вылучыць такога кандыдата ў прэзыдэнты, які падпіша пісьмовую дамову-абяцаньне ў выпадку перамогі зьліквідаваць прэзыдэнцкі пост. Пакіньце, у палітыцы такая дамова каштуе не даражэй за паперу, на якой напісаная. Няўжо Лукашэнка нічому не навучыў?

Нашую краіну можа выратаваць толькі нетрадыцыйнае, сьмелае й нечаканае для суперніка палітычнае рашэньне.

*Ян Навіцкі*

***Пакуль апазыцыя рыхтуецца да прэзыдэнцкіх выбараў 16 траўня, "Народная газета" ад 17 лютага прэзыдэнта Лукашэнку нечакана падмяніла спадаром Лукашэнем.***



Жыве Беларусь!

...ДНАЯ ...ЕТА

АФІЦЫЙНА

Тэлефонная размова А.Р.Лукашэні і Л.Д.Кучмы

15 лютага 1999 г. адбылася тэлефонная размова паміж Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь А.Р.Лукашэнем і Прэзідэнтам Украіны Л.Д.Кучмам.

Адрас рэдакцыі: Крапівінскае поле пад Воршай.
Код 8.09. Тэлефон 1514.
Набрана й зьвярстана выдавецкай фірмай СІПХАЗ.
Надрукавана ў друкарні Кастуся Каліноўскага.

"Выбар" Заснавальнік: Віцебскі клуб выбаршчыкаў "За дэмакратычныя выбары".
Рэдактар Барыс Хамайда.
Наклад 499. Замова -- 78.
Падпісана да друку 15.03.99.